# Interhistory

INTERHISTORY

# ПРАЦА З КУЛЬТУРНІЦКАЙ СПАДЧЫНАЙ

## ЗБОРНІК МОЛАДЗЕВЫХ ПРАЕКТАЎ ПА ВЫНІКАХ НАВУЧАЛЬНАГА КУРСА «ІНТЭРГІСТОРЫЯ» Ў ВІЦЕБСКУ

**Змест**

**Зборнік моладзевых праектаў па выніках навучальнага курса “Інтэргісторыя” ў Віцебску**

З канца 2014 па лета 2015 года ў Віцебску рэалізоўваўся адукацыйны курс па працы з культурнай спадчынай. Ён быў разлічаны на маладых людзей: практыкуючых студэнтаў, пачынаючых спецыялістаў, актыўных валанцёраў. Па выходных перад аўдыторыяй выступалі адмыслоўцы па ахове спадчыны, экскурсазнаўству, турызму, архітэктуры, лакальнай віцебскай гісторыі, грамадскай дзейнасці. Для правядзення заняткаў запрашаліся выключна практыкуючыя дзеячы.

Сярод іх былі: Антон Астаповіч — старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў; Ігар Мельнікаў — кандыдат гістарычных навук, актыўны дзеяч руху па гістарычнай рэканструкцыі; Таццяна Касатая — экскурсавод і грамадская дзяячка з Гародні; Андрэй Янушкевіч — кандыдат гістарычных навук і кнігавыдавец; Сцяпан Стурэйка — культурны антраполаг, выкладчык ЕГУ.

Віцебскую экспертную групу прадстаўлялі мастацтвазнаўца і арганізатар выстаў Міхась Цыбульскі, гісторык і краязнаўца Мікалай Півавар, архітэктар і рэстаўратар Яўген Калбовіч, гід-міжнароднік Уладзімір Ткачэнка, архівіст Канстанцін Карпекін і шэраг іншых прафесіяналаў. Усяго на курсе “Інтэргісторыя” выступілі 19 выкладчыкаў, чые імёны, тэмы заняткаў і відэа з лекцыйных частак даступныя па інтэрнэт-адрасе: www.publicrepublic.info/node/59

Акрамя наведвання саміх натхняльных заняткаў, курс прадугледжваў самастойную працу ўдзельнікаў і рэалізацыю іх арыгінальных праектаў. Вядома, не планавалася, што гэта будуць глабальныя ініцыятывы, на рэалізацыю якіх спатрэбяцца значныя часавыя, людскія і фінансавыя рэсурсы. Удзельнікі абраблялі невялікія і цікавыя ім надзелы культурніцкай спадчыны. Яны шукалі ўнікальныя феномены, папулярызавалі традыцыі і мясціны, распрацоўвалі мадэлі інтэрпрэтацыі спадчыны для будучых і больш аб’ёмных праектаў.

Гэта былі ініцыятывы самага рознага характару — ад поўнага апісання стараверскіх могілак ля Юр’евай горкі да ўсталявання турыстычнага паказальніка на вуліцы Савецкай. Ад свята ля старой сядзібы ў Вялікіх Лётцах да студэнцкага конкурсу паштовак на тэму старых беларускіх традыцый. Менавіта гэтым праектам і прысвечаны дадзены зборнік. У ім вы знойдзеце, як нараджаліся ідэі, якія праблемы стаялі за кожнай з іх, а таксама самае галоўнае — як ішла рэалізацыя кожнага з праектаў з пазнакай поспехаў, праблем і разнастайных формаў супрацы.

## Гістарычнае і прыроднае багацце Лужасна

Лужасна — гэта прыгарад, які хутка стане горадам. Які пасаг атрымае Віцебск з уключэннем вёскі ў свой склад? Гэта нечакана багатыя на гісторыка-культурныя і прыродныя адметнасці мясціны. Але без належнай увагі некаторыя з іх паступова занепадаюць. Віцебск можа страціць цэлую групу. каштоўнасцей, якія б стварылі добры базіс для ператварэння Лужасна ў прыгарадны турыстычны цэнтр. Самаакупляльны комплекс служыў бы для культурнага адпачынку гараджан і гасцей горада.

Такім перспектывам будзе цяжка спраўдзіцца без увагі з боку дзяржаўных службаў і камерцыйнага сектара. Варта памятаць і пра жыхароў Віцебска, якія не ведаюць пра цікавыя мясціны, што захаваліся ў пятнаццаці хвілінах падарожжа ад цэнтра горада.

Ідэя праекта палягала ў тым, каб прыцягнуць увагу гараджан да нібыта далёкіх, але блізкіх месцаў. Лужаснянскі дэндрапарк, дзве царквы, старажытнае гарадзішча, спартыўны комплекс, ГЭС — маляўнічыя і прыгожыя месцы, вартыя наведвання.








**Мэты праекта**

- пазнаёміць жыхароў Віцебска з асноўнымі славутасцямі Лужасна;
- прыцягнуць увагу ўдзельнікаў праекта да праблем гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны вёскі;
- атрымаць зваротную рэакцыю ад удзельнікаў пра мадэлі выкарыстання лужаснянскай спадчыны.

## Мерапрыемствы і супраца

На працягу дня праводзяцца тры экскурсіі па вёсцы Лужасна і ваколіцах: дзве пешыя і адна на роварах. У іх агулам удзельнічае каля 100 чалавек.

Экскурсіі робяцца ў супрацы з краязнаўцам, кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта Мікалаем Піваварам.

Запрашэнні на экскурсіі распаўсюджваюцца праз публікацыі ў віцебскіх СМІ. Удзел у іх бясплатны.

Удзельнікі экскурсій запаўняюць анкеты з прапановамі аб тым, як выкарыстаць лужаснянскую спадчыну. У прыватнасці, пра найбольш пільную праблему — будынак флігеля пач. XX ст., частка якога знаходзіцца ў аварыйным стане.

Сабраныя прапановы апрацоўваюцца і дасылаюцца ў раённы і абласны выканаўчы камітэты.

Камісія выканкама праводзіць даследаванне будынка флігеля. Ён выведзены з нямэтавага выкарыстання.

Адміністрацыя падтрымлівае планы па стварэнні набазе флігеля турыстычнага аб’екта і гатовая садзейнічаць патэнцыйным інвестарам.







# Турыстычныя шыльды на Савецкай

Віцебск — горад з пакуль неразвітай сістэмай турыстычнай навігацыі. Вырашаць гэтую праблему варта на агульнагарадскім узроўні. Для прафесійнай і ўніфікаванай навігацыі патрэбна доўгая праца дызайнераў, гісторыкаў, архітэктараў, моваазнаўцаў, перакладчыкаў. Трэба распрацоўваць турыстычную айдэнтыку для цэлага горада — з шыльдамі назваў вуліц і нумароў дамоў, турыстычнымі паказальнікамі, мапамі.

Зрабіць гэта па выніках кароткага навучальнага курса "Інтэргісторыя" нельга. Але вырашыць невялікую лакальную праблему цалкам магчыма. Для рапрацоўкі і ўсталявання паказальніка з напрамкамі да бліжэйшых помнікаў гісторыі і прыроды была абраная вуліца Савецкая. Дом № 11, на якім мацавалася шыльда, знаходзіцца не ў самым турыстычным цэнтры, таму паказальнік працуе хутчэй на мясцовых жыхароў. Ён нагадвае ім, што побач знаходзяцца стары будынак былога пазямельнага банка, батанічны сад, дом спецыялістаў, Свята-Успенская царква.





## Мэты праекта

• накіраваць жыхароў і гасцей Віцебска да аб'ектаў гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны па-за цэнтральнымі вуліцамі горада;
• паспрабаваць схему ўзаемадзеяння з гарадской адміністрацыяй на прадмет развіцця турыстычнай навігацыі.

## Мерапрыемствы і супраца

Абіраецца раён горада за межамі турыстычнага цэнтра і цэнтральных магістраляў — вуліцы Камуністычная і Даватара.

Адбіраюцца аб’екты, вартыя пазначэння на турыстычных паказальніках: былы будынак пазямельна-сялянскага банка (пач. XX ст.), дом спецыялістаў (1935 г.), Свята-Успенская царква (1852 г.), батанічны сад (пач. XX ст.).

Вызначаюцца месцы для ўсталявання дзвюх шыльдаў: на будынку па вуліцы Савецкая, 11 і на слупе ля скрыжавання вуліц Камуністычная і Савецкая.

Распрацоўваецца дызайн шыльдаў пры ўдзеле прафесійных творцаў. Тэкст на шыльдзе правяраецца адміністрацыямі пазначаных на ёй устаноў. Карэктура і пераклад тэкстаў на англійскую мову.

Узгадненне шыльдаў з кіраўніком гістарычнага цэнтра Віцебска і аддзелам горадабудаўніцтва. Узгадненне праходзіць толькі размяшчэнне шыльды на будынку. Удакладняюцца памеры шыльды для ўсталявання паміж вокнамі на будынку.

Вытворчасць пластыкавай шыльды і яе ўсталёўка. Паведамленне пра працу ў СМІ.



# Свята ў Вялікіх Лётцах

Віцебскі прыгарад набірае больш акрэсленыя рысы і напаўняецца новымі сувязямі з горадам. Гэта не ў апошнюю чаргу звязана з павевамі дэзурбанізацыі. Сучасныя тэхналогіі дазваляюць уладкоўваць жыццё ў сельскай мясцовасці, а на працу ездзіць у абласную сталіцу. Жыхары Віцебска даследуюць прыгарады на прадмет найбольш экалагічнага, але разам з тым камфортнага ціхага жыцця. Ваколіцы ж Віцебска могуць здзівіць і ўразіць не толькі лясамі, азёрамі, але і старымі сядзі-бамі ды парэшткамі садова-паркавых комплексаў.

Вялікія Лётцы якраз адносяцца да такіх неспадзяванак. Вялікая вёска з крамай і шматкватэрнымі дамамі захавала сядзібны дом Уладзіміра Адамава — вучонага-дэндролага, геабатаніка, заснавальніка батанічнага сада БДУ, які жыў тут на пачатку XX стагоддзя. Побач з будынкам сядзібы захавалася частка парка, а ўнізе плёскаецца возера. Каля самай сядзібы стаіць Вялікалятчанскі дом-інтэрнат, які і карыстаецца ёй час ад часу ў гаспадарчых мэтах. Хаця стала відавочна, што прый-шоў час на рэнавацыю помніка і выкарыстанне ў больш прымальных культурніцкіх ці турыстычных мэтах.






**Мэты праекта**

• прыцягненне ўвагі жыхароў горада Віцебска, мясцовых насельнікаў, раённай адміністрацыі да рэштак сядзібнага комплексу Уладзіміра Адамава ў Вялікіх Лётцах;
• развіццё супрацы з краязнаўцамі, экспертамі і адміністрацыяй Вялікалятчанскай школы-інтэрната ў справе захавання і папулярызацыі помніка гісторыі і культуры.

## Мерапрыемствы і супраца

Акрэсленне магчымага фармату мерапрыемстваў. Выбар спыняецца на адкрытай экскурсіі, грамадскай талацэ і канцэрце фольк-гурта.

Выбар музычнага гурта Vuraj і перамовы з ім аб дабрачынным выступе.

Падбор аптымальнай даты, якая будзе пасаваць мясцоваму інтэрнату, музычнаму гурту, арганізатарам, жыхарам горада.

У прызначаны выходны дзень 12 верасня ў супрацы з адміністрацыяй школы-інтэрната праводзіцца грамадская талака па добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол сядзібы. Паўдзельнічаць у святе прыязджаюць жыхары Віцебска.

Праходзіць экскурсія Міхаіла Дука па Вялікіх Лётцах для ўдзельнікаў свята. Экскурсія, а таксама канцэрт — свайго роду падзяка гасцям за працу па добраўпарадкаванні.

Арганізацыя прыезду гурта Vuraj з Мінска ў Віцебск і Вялікія Лётцы. Іх рэпетыцыя і выступ перад мясцовымі жыхарамі, удзельнікамі талакі і выхаванцамі школы-інтэрната.

Планаванне далейшага развіцця мерапрыемстваў, іх трансфармацыі ў штогадовы “Адамаўскі фэст”.







# Паштоўкі “Віцебшчына старадаўняя.

Віцебскі клуб гістарычнай рэканструкцыі “Варгенторн” працуе на базе Гарадскога цэнтра культуры. Гэта аб’яднанне са шматгадовай гісторыяй, вялікай колькасцю сяброў і прыхільнікаў і досведам “культурнай дыпламатыі”. Клуб — сталы ўдзельнік гарадскіх і абласных культурніцкіх падзей. З яго дапамогай жыхары даведваюцца пра тое, што апраналі, чым харчаваліся, як гандлявалі і ваявалі нашыя продкі і суседнія народы стагоддзі таму.

У падзеях “жывога” фармату шырокая, але абмежаваная аўдыторыя. Даносіць веды да дадатковых колаў віцяблян дазваляюць друкаваныя, кіна- відэа- і мультымедыйныя прадукты. Бягучы праект стварае мадэль першага кшталту. У будучыні яе можна выкарыстоўваць у масавай вытворчасці, турыстычнай і сувенірнай прадукцыі. Друкаваць тысячныя наклады — справа прэстыжу альбо патрэбы для дзяржаўных і камерцыйных устаноў. Клуб “Варгенторн” паказвае, наколькі іх рэканструкцыі ў рэкламнай прадукцыі будуць выглядаць лепей, чым спампаваная з інтэрнэту выява дрэварыту альбо фотаздымак архітэктурнага помніка, які даўно нагнаў аскому.





**Мэты праекта**

• прэзентаваць дзейнасць клуба гістарычнай рэканструкцыі “Варгенторн” з дапамогай друкаванай прадукцыі;
• стварыць узоры друкаваных прадуктаў для іх далейшага выкарыстання ў рэкламнай, турыстычнай, прэзентацыйнай і іншай дзейнасці.

**Мерапрыемствы і супраца**

Абмеркаванне тыпу друкаванай прадукцыі. Вырашана, што гэта будуць настольны каляндар і паштоўкі. Першы дазваляе вялікаму камплекту рэканструкцый прысутнічаць пад рукой спажыўца. Другі можа рассылацца і выкарыстоўвацца як сувеніры.

Клуб сам вырашае, якія строі фатаграфаваць.

Праводзіцца студыйная фотаздымка. “Адарваныя” ад навакольнага асяроддзя старажытныя строі канцэнтруюць на сабе больш увагі, чым калі б яны былі ў звыклых прыродных умовах.

Ствараюцца анатацыі пад кожны здымак са строямі, а таксама агульнае апісанне праекта. Тэксты вычытваюцца карэктарам. Здымкі апрацоўваюцца, з іх фармуюць дызайн-макеты для друку.

Друк накладу календароў і паштовак.

Прэзентацыя праекта для шырокай грамадскасці праз СМІ і сустрэчу.







# Стараверскія могілкі ля Юр’евай горкі

Ваенныя ліхалецці нямала знішчылі на Беларусі, нічога не пакідаючы для нашчадкаў у памяць пра папярэднікаў. Часта адзіным сродкам захавання памяці пра чалавека заставалася надмагілле. Але не ўсе ведаюць аб месцах пахавання і аб лёсе сваіх продкаў. Менавіта таму з’явіўся сайт “Некропалі Беларусі“ — www.niekropali.by. Яго дадзеныя пастаянна ўзбагачаюцца дзякуючы карпатлівай працы валанцёраў, якія па сваёй ініцыятыве збіраюць звесткі пра старыя могілкі па ўсёй краіне.

Для Віцебска гэта не зусім новая справа. Напрыклад, Стара-Уланавіцкія могілкі даследаваў вядомы краязнаўца Аркадзь Падліпскі. Але гэта ледзь не адзінкавы выпадак, а каб яшчэ паспець зафіксаваць гарадскія некропалі і памяць пра тых, хто там спачывае, да справы трэба далучацца новым людзям. І далучацца масава.

Як паказвае досвед, апісаннем могілак, іх структурызацыяй можа займацца любы чалавек без “адмысловай“ адукацыі. Справа гэтая нескладаная для спасцігання — методыка шырока апісана ў інтэрнэце, напрыклад, на ўжо згадваемых “Некропалях Беларусі“. Пасля азнаямлення з тэорыяй, можна, узброіўшыся фотаапаратам, сшыткам і асадкай, ісці працаваць. Атрыманыя дадзеныя любы жадаючы публікуе на www.niekropali.by. Тут артыкулы правяраюцца спецыялістамі і становяцца даступ-нымі для ўсіх жадаючых. А жадаючых нямала. Праз пошукавую сістэму ўсё больш і больш людзей даведваюцца пра месцы, дзе пахаваныя іх продкі, адгукаюцца
на працу сайта і дзякуюць распрацоўшчыкам.
Віцебску трэба актыўней уключацца ў гэтую валанцёрскую справу і працаваць з пахаваннямі ў горадзе, раёне, вобласці. Гэтаму “ўключэнню“ і быў прысвечаны праект.




**Мэты праекта**

• напаўненне інтэрнэт-рэсурсу “Некропалі Беларусі“ інфармацыяй аб Стараверскіх беспапоўскіх пахаваннях горада Віцебска;
• папулярызацыя працы па апісанні старых пахаванняў на Беларусі, далучэнне да яе новых актывістаў.

## Мерапрыемствы і супраца

Ідэя нараджаецца падчас навучання ў межах курса "Інтэргісторыя". Выкладчык — гісторык і актывіст ICOMOS — Цімафей Акудовіч распавёў пра некрапалістыку ў іншых абласцях краіны і прапанаваў зрабіць падобную працу навучэнцам курса.

Цімафей Акудовіч ахвотна бярэцца за метадалагічную дапамогу па апісаннях могілак. Могілкі падрабязна апісваюцца камандай валанцёраў.

Фотаздымкі і тэксты апрацоўваюцца і публікуюцца на сайце www.niekropali.by

Інфармацыя пра праект з заклікам да самастойнай працы публікуецца ў мясцовых СМІ.



# Паштоўкі “Добрая традыцыя”

Усё часцей чуваць, што беларускай традыцыі не хапае ў папулярных формах. А тое, што прабіваецца да аўдыторыі, не заўсёды адпавядае мінімальным патрабаванням чалавека з густам. Яшчэ вастрэй стаіць праблема з прэзентацыяй моладзевых росшукаў у гэтым полі.

Віцебск часта называюць мастацкім цэнтрам Беларусі. Тут шмат творцаў высокага класа, якія дзеляцца сваімі навыкамі з маладымі людзьмі ў мясцовых навучальных установах. Лагічна, што жыхарам горада вельмі цікава пабачыць вынікі гэтага працэсу, асабліва калі тэма будзе датычыцца роднай культуры, мовы, адраджэння звычаяў і традыцый.

Зручным для гэтай справы і досыць трэндавым можна лічыць фармат паштовак. Удалы памер, фізічная наяўнасць, магчымасць вандраваць паштовымі перасылкамі вабяць да паўштоўкі як інструмента многіх творцаў. Праект “Добрая традыцыя“ паспрабаваў з дапамогай гэтага інструмента зрабіць маладых віцебскіх творцаў больш вядомымі, а беларускую традыцыйную культуру — больш папулярнай.





**Мэты праекта**

• актывізацыя маладых віцебскіх творцаў на мастацкія пошукі ў сферы беларускай традыцыйнай культуры;
• стварэнне мадэляў беларускіх сувенірных паштовак для іх далейшага развіцця з боку зацікаўленых інвестараў.

## Мерапрыемствы і супраца

Выпрацоўваецца праграма конкурсу “Добрая традыцыя”.

Праз СМІ, сацыяльныя сеткі, супрацу з выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў адбываецца папулярызацыя конкурсу, рассылаецца прэс-рэліз.

Ідзе збор творчых прац маладых людзей.

Дасланыя прапановы ацэньвае журы з ліку сябраў Саюза мастакоў Беларусі і Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.

Лепшыя работы друкуюцца ў выглядзе паштовак.

Фіналісты фармуюць экспазіцыю сваіх твораў. Выстава адкрываецца ў сценах Мастацкага музея дзякуючы супрацы з яго кіраўніцтвам. На адкрыцці выставы адбываецца прэзентацыя вынікаў праекта “Добрая традыцыя”.

Абмяркоўваецца ўключэнне конкурсу ў праграму мастацка-графічнага факультэта і ператварэнне “Добрай традыцыі” ў штогадовае мерапрыемства.







# Публічная падзея ў арт-прасторы “Талстога, 7”

Віцебск багацее на публічныя пляцоўкі для рэалізацыі культурніцкіх і арт-падзей. Сярод іх маюцца прыватныя VZAP, бітлз-клуб “Чердачок“ альбо антыкафэ “7 комнат“. Гэтыя прасторы прымаюць у сябе канцэрты, літаратурныя сустрэчы, грамадскія абмеркаванні, калектыўныя гульні і шмат іншага.

Нядаўна г. зв. “трэцяе месца“ з’явілася і ў дзяржаўным сектары. У самым гістарыч-ным цэнтры горада паўстала арт-прастора “Талстога, 7“. Памяшканні ў будынку канца XIX ст. і вялікі двор перад ім запоўнілі выставы, майстэрні маладых мастакоў і фатографаў. Тэрыторыя належыць Віцебскаму цэнтру сучаснага мастацтва, які і запрасіў да супрацы разнастайных ініцыятыўных людзей. Былі такія людзі і сярод выпускнікоў навучальнага курса “Інтэргісторыя“. Першая падзея прайшла напрыканцы лета.





**Мэты мерапрыемства**

• выпрацаваць мадэль партнёрства з арт-прасторай на Талстога, 7 для правядзення публічных падзей на адкрытым паветры і ў сценах пляцоўкі;
• пазнаёміць жыхароў і гасцей Віцебска з вандроўніцкім праектам “Вакол Беларусі на роварах з маторамі“.

## Мерапрыемствы і супраца

Звязацца з вандроўнікамі, калі тыя едуць у раёне Мёраў, каб да прыезду ў Віцебск паспець усё зарганізаваць :)

Дамовіцца з арт-прасторай "Талстога, 7" аб зручным для іх і адначасова для аўдыто-рыі часе. Абраны суботні вечар, прагноз на гэты жнівеньскі дзень не абяцае нічога дрэннага (так яно і атрымаецца!).

Каб разнастаіць праграму сустрэчы і падараваць наведвальнікам нешта большае, чым двух валацугаў, уключаецца дадатковая опцыя па праглядзе кіно на адкрытым паветры. Кіно глядзім пасля сустрэчы з вандроўнікамі Ромам і Данілам. Пазычаецца праектар, гукавое абсталяванне.

Абсталяванне дворыка на Талстога, 7 усім неабходным для сустрэчы.

Рэклама сустрэчы праз СМІ, сацыяльныя сеткі, персанальныя запрашэнні.
У прызначаны дзень сустрэча гасцей. Правядзенне мерапрыемства. Прагляд кінафільма.

На наступны дзень праводзіцца ацэнка мерапрыемства, вылучаюцца моцныя і слабыя бакі, тэхнічныя нязручнасці і перавагі, якія варта прыняць да ўвагі ў далейшай супрацы.







# Восеньскі стрыт-арт

Падчас падрыхтоўкі каталога адметнасцей “Віцебскі алфавіт“ было нечаканасцю, што нямала людзей даслалі на літару “Г“ прапанову феномена “графіці“.
Для тутэйшых жыхароў мастацтва іх роднага горада стала немагчыма ўявіць без манументальных роспісаў па дварах і завулках. Гэта творы каманды HoodGraff/StreetSkills, мастакоў Продка, Ura, IS, гасцей з Мінска — Cowek, Алесь Благій, Kirhr і іншых. Стрыт-арт “уеўся“ у вобраз горада як нешта вельмі сваё і традыцыйнае, хаця працэс пачаў актыўна развівацца ў легальным рэчышчы літаральна апошнія пяць гадоў.

Для законнай прэзентацыі сваёй творчасці мастакам трэба ісці на ўзгадненні з нейкім “афіцыёзам“. Менавіта з “нейкім“, бо кожны раз легітымнасць ініцыятывам надаюць розныя інстанцыі. Гэта залежыць ад месца, сценкі, знаёмстваў. Збольшага ўсё ў Віцебску ідзе някепска ў рэчышчы насценнага жывапісу, але надаць працэсу сістэмнасці і празрыстасці не зашкодзіць. З дапамогай канкрэтнай падзеі бягучы праект і быў закліканы гэта здзейсніць.





**Мэты мерапрыемства**

• выпрацоўка мадэлі ўзгаднення манументальных малюнкаў з віцебскай гарадской адміністрацыяй;
• пошук патэнцыяльных бізнес-партнёраў для правядзення стрыт-арт падзей у будучым.

**Мерапрыемствы і супраца**

Пашукаць кампрамісныя месцы для размяшчэння графіці ў цэнтры Віцебска. Кампраміс у тым, каб яны падыходзілі мастакам, але не глядзелі на цэнтральныя вуліцы.

Фатаграфуем сценкі і рассылаем вулічным мастакам на ацэнку: ці цікава ім удзельнічаць.

Мастакі робяць эскізы прац і накладаюць іх на сценкі ў камп'ютарных праграмах. Месцы ўзгадняюцца ў Аддзеле архітэктуры і горадабудаўніцтва Віцебскага гарвыканкама. Сюжэты ўзгадняюцца ў Аддзеле ідэалогіі.

Падчас гэтага супольна з гарадской адміністрацыяй прапрацоўваецца новая мадэль узгадненняў на базе заканадаўства па манументальным жывапісе. Будучым графіці для ўзгаднення трэба будзе праходзіць дзве інстанцыі: Аддзел архітэктуры (узгадняем месца) і абласную мастацкую раду (сюжэт, выкананне).

З запланаваных шасці ўдзельнікаў да стадыі ўзгаднення даходзяць пяць.

Узгадняюцца чатыры. Па асабістых прычынах не ўсе мастакі могуць прыехаць на прызначаныя выходныя. Работы робяцца ў некалькі тыдняў па выходных. Праца асвятляецца ў СМІ і сацыяльных сетках, становіцца падзеяй у жыцці горада.

З самага пачатку пасля абвяшчэння набора мастакоў ідзе пошук камерцыйнага партнёра мерапрыемства — пастаўшчыка фарбы. Ім становіцца кампанія "Цікурыла" www.tikkurila.by. Фірма бескаштоўна пастаўляе фасадную фарбу і колеры маркі "Тэкс" і гатовая працягваць супрацу.





# Добраўпарадкаванне старой сінагогі

На пачатку XX ст. у Віцебску знаходзілася каля 70 сінагог і малельных дамоў. Яскрававая прыкмета таго, якую ролю грала яўрэйская абшчына ў гарадскім соцыуме. Як правіла, бажніцы былі драўляныя, але меліся і камяніцы. Найбольш вядомая па шматлікіх здымках і паштоўках Харальная сінагога стаяла на сучаснай плошчы Тысячагоддзя. Пашкоджаная, яна ўсё ж такі перажыла Другую сусветную вайну, але потым была разбураная. Гэтак жа як шмат іншых сінагог.

Адзіная сведка таго старога, з моцнай іўдзейскай традыцыяй Віцебска захавалася на сучаснай вуліцы Рэвалюцыйная, былой Ільінскай. Цалкам занядбаная, былая сінагога выкарыстоўваецца асобамі без пэўнага занятку і аматарамі актыўных гульняў, кшталту лазэртагу. Праект аднаўлення канструкцыі быў закладзены ў інвестыцыйную прапанову па стварэнні гэтак званага "Шагалаўскага квартала". Ініцыятыва пакуль не прыцягнула сродкаў, а храм гібее без увагі.





**Мэты мерапрыемства**

• звярнуць увагу жыхароў Віцебска на апошні захаваны ўзор іўдзейскай храмавай архітэктуры ў Віцебску;
• прыцягнуць грамадскасць да канкрэтнай працы вакол помніка архітэктуры.

**Мерапрыемствы і супраца**

Разглядаецца група занядбаных помнікаў у Віцебску. Сінагога абіраецца як адзін з найбольш нетыповых сярод іх.

Вызначаюцца неабходныя для правядзення прыборкі матэрыялы і рэсурсы. Эксперты з Віцебскага дзяржаўнага архіва робяць навуковае абгрунтаванне, чаму помнік архітэктуры патрабуе ўвагі да сябе.

У выходны дзень праводзіцца прыборка тэрыторыі вакол сінагогі і даступных памяшканняў унутры. На працу праз СМІ і сацыяльныя сеткі запрашаюцца жадаючыя валанцёры.

Побач усталёўваецца інфармацыйная шыльда пра сінагогу. Вынікі працы публікуюцца і папулярызуюцца.





**Рэдакцыя:** Раман Воранаў
**Карэктура:** Настасся Трафімчык
**Дызайн і вёрстка:** Дзіма Лось
**Фота:** Аляксандр Арцемьеў, Юля Кот, Анжэліка Гайцюкевіч, Дзіма Лось, Аляксандр Веледзімовіч, Яўген Камінскі, Аляксандра Гарлачова-Русалоўская, Таня Аліпчыкава, Павел Бокішаў

interhistory2015@gmail.com
publicrepublic.info

VITEBSK4.ME